*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**№ 56 (1121)**
Аўторак, 27 сакавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 80 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Надвор'е**

Сёння ўдзень захавацца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер паўночны, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — каля -3, Магілёве — -1...-3, Мінску — 0...-2, Гродне — каля 0, Гомелі — 0...+2, Брэсце — каля +2.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Толькі ноччу 28-га па паўночным усходзе невялікі снег. Вецер заходні з пераходам на паўднёва-ўсходні, 4—9 м/с. 29-га — на захадзе парывы да 15—18 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -10...-15, месцамі да -20; удзень — -2...+3.



# 25 сакавіка ў Мінску святкавалі Дзень Волі

## Святкавалі не на "сабачай пляцоўцы", а ў цэнтры горада

Сапраўды, удзельнікі акцыі парушылі забарону ўлады на збор у цэнтры Мінска. Але толькі таму, што сама ўлада парушыла іх правы. Народ Беларусі мае права адзначаць гістарычныя даты не на пляцоўцы для выгулу сабак. І мае права ў святочны дзень збірацца ў славутых месцах горада.

Па-другое, тая ж улада падштурхнула да супрацьстаяння з народам і міліцыю. Дарэчы, міліцыі трэба зрабіць камплімент: іх паводзіны былі даволі стрыманымі. Ахоўнікі парадку пад асабістым кіраўніцтвам міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Навумава імкнуліся не ісці на канфрантацыю і да апошняга пазбягалі непатрэбных сутычак з народам. Аднак... Пасля псіхалагічнай акцыі ўстрашэння, калі людзі ў форме на праспекце Машэрава абступілі ўдзельнікаў акцыі амаль з усіх бакоў, бойкі мінаваць не ўдалося. У рэшце рэшт было затрымана, па некаторых звестках, трынаццаць чалавек. Міліцыянты ў асноўным хапалі арганізатараў. Але, як заўсёды, пад гарачую руку трапляліся і выпадковыя людзі. Напрыклад, унучка дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Валерыя Шчукіна Жэня Пігуль. Жэня заўсёды ходзіць на падобныя акцыі разам са сваім дзедам. Але на гэты раз маці катэгарычна забараніла ёй з'яўляцца на шэсці і мітынгу. 15-гадовая дзяўчынка ўсё ж збегла з дому і на працягу ўсёй акцыі ішла ў першых радах калоны з плакатам ў руцэ...

На святкаванні Дня Волі таксама былі заўважаны некаторыя высокапастаўленыя дзяржаўныя асобы. Прычым адны з'явіліся на акцыю па асабістым жаданні, а другія разам з генералам Навумавым за забяспячэнне парадку падчас дадзенага мерапрыемства адказвалі галавой.

Прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын, якога ўдзельнікі акцыі сустрэлі каля аднаго з прадуктовых магазінаў, з народам гаварыць не стаў. Целаахоўнікі літаральна ўпіхнулі Уладзіміра Васільевіча ў машыну. Ён толькі паспеў паведаміць журналістам, што на акцыю зусім не збіраўся, проста жонка папрасіла купіць кефіру...

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч праходжваўся каля стэлы "Горад-герой Мінск" у даволі элегантным выглядзе без кефіру і без целаахоўнікаў. Перакінуўшыся некалькімі фразамі з генералам Навумавым, Міхаіл Уладзіміравіч на чорным "Мерседэсе" стартануў у бок Драздоў.

Намеснік міністра ўнутраных спраў Леанід Глухоўскі, размаўляючы з народам, падчас пераходзіў на крык. А калі ў яго пыталіся "А ты хто такі і чаго тут крычыш?", Глухоўскі адказваў: "Мы — ваша кіраўніцтва". Удзельнікі акцыі, пачуўшы адказ, з цікавасцю паглядалі на "кіраўніцтва", якое, відаць, бачылі ўпершыню і недаверліва перапытваліся: "Да?"

Міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў у адказ на віншаванне Іосіфа Сярэдзіча "З Днём Волі, генерал Навумаў!" моцна пацiснуў галоўнаму рэдактару "Народнай волі" руку і гучна адказаў: "Узаемна!". Не "Взаимно!", а "Узаемна!". Відаць, Уладзімір Уладзіміравіч падчас акцыі таксама адчуў сябе Беларусам і ў душы быў бы шчаслівы адсвяткаваць Дзень Волі разам з усімі. І хочацца верыць, што ўжо ў наступным годзе міліцыя, як і ўвесь беларускі народ, будзе афіцыйна адзначаць галоўнае свята краіны — Дзень Волі.

Рушыўшы з Юбілейнай плошчы, літаральна да апошняга моманту арганізатары акцыі не ведалі, куды ісці, куды весці народ — на Бангалор ці усё ж такі ў цэнтр горада? Увогуле дзеянні арганізатараў заслугоўваць справядлівай крытыкі. Па-першае, яны даўным-даўно ведалі, што ўлады да апошняга моманту будуць цягнуць з канчатковым удакладненнем месца збору людзей і маршрутам руху. Значыць, трэба было загадзя падумаць, якім чынам у апошнія суткі будзе даведзена да грамадскасці неабходная інфармацыя — за адну ноч можна, напрыклад, раскідаць па горадзе сотні тысяч улётак. Па-другое, шэсце трэба было ладзіць такім чынам, каб яно не было падобнае на пахавальную працэсію. А ўдзельнікі, прабачце, на паланёных людзей. На жаль, не было ні прыгожа афармленых калон, ні музыкі, ні песень. Калі ўзяліся арганізоўваць свята, дык усё трэба рабіць з душой, бездакорна. Па-трэцяе, арганізатары акцыі, парушыўшы дамоўленасць з міліцыяй, ледзь самі не справакавалі кровапраліццё на праспекце Машэрава. А калі б у людзей у пагонах здалі нервы?..

Радуе, што на змену тым, хто, магчыма, ужо вычарпаў сябе ў барацьбе з рэжымам, прыходзяць такія, як унучка Валерыя Шчукіна. Значыць, будзе Беларусь!..

**Марына КОКТЫШ.**



Фота IREX/ProMedia.

**Ад Брэста — да Віцебска**

### "Лукашэнка — будзь гатовы!"

У Віцебску галоўнымі лозунгамі мітынгу былі: "25 сакавіка — Дзень Волі", "Беларусь — чэмпіён Еўропы па галечы", "Мілошавіч — гатовы, Лукашэнка — будзь гатовы!". Прамоўцы заклікалі галасаваць супраць Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах.

### Затрыманы два актывісты апазіцыі

25 сакавіка ў Гомелі міліцыя затрымала двух удзельнікаў пікета, прысвечанага Дню Волі, — старшыню гомельскай гарадской арганізацыі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ Уладзіміра Старчанку і актывістку гэтай арганізацыі Алесю Кацапаву.

### Без інцыдэнтаў

У Наваполацку раніцай адбыліся пікет і мітынг. Абодва мерапрыемствы былі санкцыянаваны гарадскімі ўладамі, а таму прайшлі без інцыдэнтаў. У Шаркоўшчыне члены "Маладога фронту" адзначылі Дзень Волі імпрэзай, на якой гучала музыка і дэманстраваліся фільмы.

У цэнтры Вялікай Бераставіцы ў ноч на 25 сакавіка былі вывешаны бел-чырвона-белыя сцягі, а на будынках з'явіліся надпісы "Жыве Беларусь!" і "Наш дом — Беларусь".

У Жлобіне Дзень Волі быў адзначаны святочным пікетам, у якім удзельнічалі каля 300 чалавек. Падчас акцыі члены Партыі БНФ запісвалі жадаючых у валанцёрскія групы для працы падчас выбараў прэзідэнта і раздавалі прахожым святочныя ўлёткі.

Адзіным горадам Магілёўскай вобласці, дзе прайшлі святочныя мерапрыемствы, стаў Бабруйск. На плошчы Перамогі ў цэнтры горада сабраліся каля 150 чалавек.

У некаторых гарадах — напрыклад, у Лідзе (Гродзенская вобласць), Мазыры (Гомельская) і Крычаве (Магілёўская) — мерапрыемствы, прымеркаваныя да 83-й гадавіны БНР, прайшлі напярэдадні.

**БелаПАН.**

**Факт**

### За што схапілі Жэню Пігуль?

Сярод затрыманых удзельнікаў мітынгу ля стэлы "Горад-герой Мінск" была і 15-гадовая Жэня Пігуль. Двое дужых амапаўцаў схапілі яе за рукі і з размаху кінулі на прыступкі аўтобуса. Здаравенны дзяцюк у міліцэйскай форме, прыставіўшы да рота дзяўчынкі чорную дубінку, грозна вымавіў: "Паспрабуй толькі пікні..."

А далей Жэня ўбачыла самае сапраўднае пабоішча. На падлогу аўтобуса тварам уніз кінулі мужчыну і пачалі малаціць дубінкай па спіне.

Дзяўчынка-падлетак прымушана была не толькі назіраць, як міліцыянеры-"абаронцы" збіваюць затрыманых грамадзян, але і прыкладна на працягу гадзіны выслухваць брудную лаянку, што неслася з вуснаў гэтых самых ахоўнікаў парадку. Дзядзечкі-міліцянеры ў нас без комплексаў: непаўналетняга дзіцяці яны ні кропелькі не саромеюцца.

Праз дзве з паловай гадзіны Жэню перадалі прыбыўшай у райаддзел маці. Але вось за што яе схапілі, дзяўчынцы так і не патлумачылі. Быццам бы за парушэнне нейкага парадку. Толькі ў чым было гэта парушэнне, участковы інспектар Цэнтральнага РАУС, які складаў пратакол, юнай "парушальніцы" так і не змог растлумачыць.

І на самай справе растлумачыць немагчыма. Таму што 25 сакавіка 2001 года ў святочнай калоне па вуліцах Мінска прайшло дзесьці каля пяці тысяч дарослых дзядзяў і цёцяў, а пратакол за несанкцыянаванае шэсце склалі на... 15-гадовую дзяўчынку.

**Даніла ХАЛЕЦКІ.**



# Заўтрашні дзень пачынаецца сёння

## Адбылося ўрачыстае падпісанне Акта Незалежнасці Беларусі

**Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ**

Цырымонія падпісання Акта Незалежнасці Беларусі атрымалася хоць і ўрачыстай, але досыць сціплай. Па шчырасці, падстаў рабіць з яе пампезнае святкаванне не было: краіна паранейшаму знаходзіцца ў кроку ад бездані.

Нагадаю, што Усебеларускі З'езд адбыўся 29 ліпеня 2000 года. На яго разгляд выносіўся толькі адзін дакумент — Акт Незалежнасці Беларусі. З'езд абвясціў дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа. За гэта рашэнне прагаласавалі 1376 дэлегатаў, якіх прыслалі выбаршчыкі амаль з усіх раёнаў Беларусі, а таксама 227 грамадскіх арганізацый, палітычных партый і прафесійных саюзаў. Свае вітанні Усебеларускаму З'езду перадалі наш знакаміты пісьменнік Васіль Быкаў, прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел ды іншыя вядомыя і аўтарытэтныя асобы.

Пасля правядзення З'езда былі цалкам зразумелыя спробы паскорыць цырымонію падпісання Акта. Аднак сустаршыні Усебеларускага З'езда Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі і Анатоль Грыцкевіч не спяшаліся.

У выніку атрымалася сімвалічная эстафета: З'езд адбыўся напрыканцы XX стагоддзя, а падпісанне Акта Незалежнасці Беларусі — на пачатку XXI. Будзем спадзявацца, што гэта добры знак. Падчас цырымоніі кожны з сустаршыняў Усебеларускага З'езда пасля кароценькай прамовы паставіў свой подпіс пад выкананым па ўсіх правілах афармлення дзяржаўных дакументаў на найвышэйшым паліграфічным узроўні (дзякуй спадару Генадзю Грушавому) тэкстам Акта. Цяпер ён будзе перададзены дзяржаўным установам і дыпламатычным місіям, акрэдытаваным у Беларусі.

Дарэчы, Акт ужо перакладзены на 9 моў, і, што вельмі прыемна, гэтаму актыўна спрыялі некаторыя амбасады. Наогул стаўленне замежных дыпламатаў да гэтай падзеі ўразіла сваёй цеплынёй і павагай. Неглядзячы на тое, што запрашэнні на цырымонію былі перададзены ў апошні момант (арганізатарам адмовілі ў арэндзе шэрагу памяшканняў і толькі напярэдадні была атрыманая згода ад Міжнароднага адукацыйнага цэнтра), на ёй прысутнічалі амбасадары Германіі і Злучаных Штатаў Амерыкі, прадстаўнікі іншых дыпламатычных місій, у тым ліку АБСЕ.

Варта звярнуць увагу і яшчэ на адну акалічнасць, больш трывожную. Некаторыя кіраўнікі апазіцыйных структур падчас падрыхтоўкі Усебеларускага З'езда не дапамагалі яго правядзенню, а стваралі перашкоды. Даходзіла нават да асабістых выпадаў на адрас сустаршыняў. Калі б усё гэта было агучана, той-сёй з палітыкаў меў бы вельмі дрэнны выгляд. Аднак арганізатары свядома адмовіліся ад канфрантацыі, спадзеючыся на паразуменне хаця б па выніках З'езда. На жаль, гэтыя чаканні не спраўдзіліся.

Праблема ў тым, што інфармацыя пра Акт Незалежнасці Беларусі мусіць даводзіцца як мага шырэй. Магчымасці сустаршыняў і дзеючых палітыкаў тут непараўнальныя. Апошнія маюць і структуры па Беларусі, і замежныя кантакты. Але асабістыя амбіцыі засцяць вочы да такой ступені, што яны не разумеюць простых рэчаў.

Акт Незалежнасці Беларусі з'яўляецца адным з рубяжоў абароны суверэнітэту. Сустаршыні Усебеларускага З'езда прадбачылі працэсы, што разгортваюцца сёння, у тым ліку драпежніцкую прыватызацыю беларускіх прадпрыемстваў. Таму ў Акце запісана, што любыя рашэнні і дзеянні (гэта значыць не толькі палітычныя, але і эканамічныя), што скасоўваюць ці абмяжоўваюць дзяржаўны суверэнітэт, не маюць законнай сілы.

Акт Незалежнасці Беларусі не з'яўляецца чыёйсьці персанальнай маёмасцю, гэта — агульны набытак. Дык давайце ашчадна ставіцца да таго, што ў нас ёсць. Каб ён запрацаваў па-сапраўднаму, трэба яшчэ багата папрацаваць. У адваротным выпадку можна і згубіць падставу для вяртання Беларусі таго, што ў яе ўжо скралі і яшчэ скрадуць.

Акт Незалежнасці Беларусі — дакумент, які скіраваны ў заўтрашні дзень. Дзеля яго надыходу мы мусім ствараць умовы сёння. Гэта і ёсць шлях да годнага жыцця ў сваёй дзяржаве.



*Яны падпісалі Акт Незалежнасці Беларусі: Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін.*

Фота Уладзіміра ШЛАПАКА.

**Открытое письмо**

# Прекратите клеветать на моего мужа!

После показа по БТ фильма Азаренка, который повторили три раза, и передачи "Рэзананс" Зимовского в нашу семью пришло очень много писем, были сотни звонков. Писали и звонили знакомые и незнакомые, чтобы поддержать моего мужа. А самое главное, все говорят: держитесь, мы с вами, мы понимаем, зачем это делается. Я очень благодарна этим людям.

Я вспомнила фильм "Добровольцы", в нем Элина Быстрицкая играет любящую жену, защищающую своего мужа, из которого, как сейчас из Козловича, сделали врага народа. И мне хочется сказать: "Ребята, разве вы не знаете Козловского? Вы, господин Заметалин, когда-то работали вместе с ним, в 1994 году поддерживали его, собирали пресс-конференции у нас дома, ругали Лукашенко, тайно встречались с моим мужем, когда уже служили новому режиму. Вспомните, что вы говорили о Лукашенко: "Пал Палыч, это страшный человек у власти, он пройдет по людям, как по хворосту в лесу, переломает всем хребты, несмотря ни на что". А теперь из моего мужа делаете врага народа?

Мой муж — из маленькой белорусской деревни. Отец его погиб на фронте, защищая Родину. Мать прошла через все круги ада фашистской неволи. Вернувшись из Германии, одна воспитала пятерых детей. Козловский потом и кровью заработал все свои звездочки. Ему никто не помогал, не было "мохнатой руки". Два раза ему присваивали звания досрочно. Он пришел на должность командира полка, будучи майором, а заместители его были подполковники. Но он так объединял людей, что им всегда было легко с ним работать.

Азаренки и зимовские утверждают, что Козловский развалил армию. Наглое вранье. Получается, что мой муж, который закончил высшее военное училище, две Академии, дослужился до звания генерал-полковника, министра обороны, развалил армию, а вчерашний директор совхоза поднял армию с колен? Абсурд! Мне кажется, даже неграмотный человек в этом разберется. Моего мужа никто не выгонял из армии, он ушел в отставку вместе с правительством Вячеслава Кебича. А с пенсионером Козловским начались разборки, потому что надо опозорить честного благородного человека, чтобы следующий знал, что на президента нельзя подавать в суд.

Говорят, что Козловский якобы не любит русских. Какой бред! Я сама — русская, тоже выросла в большой семье. У нас было девять детей. Отец умер, когда мне было пять лет. Но мы выросли не обозленными на жизнь, не обозленными на людей. Семья у нас интернациональная. Есть белорусы и узбеки, татары и молдаване, таджики и украинцы. И все мы живем дружной. У нас много друзей в Москве и по всему белому свету.

Люди должны жить дружно, тогда и работа будет ладиться. Нужно стремиться к тому, чтобы вчерашние враги становились друзьями, и все жили мирно. Жаль, конечно, но этого, видимо, не понимает А.Лукашенко. Я смотрю, как он выступает, и думаю: к чему такая злость? Мало он видел, наверное, хорошего в жизни. Как живут и будут жить люди в стране, если каждый день с экрана телевизора на нас смотрят пустые глаза ведущих, следящие за быстро бегущей строкой, и сеют не добро, а зло и ненависть в души людей!

Мне жалко смотреть на высоких чиновников, которые сидят на селекторных совещаниях, стыдливо опустив головы, а Лукашенко унижает и издевается над ними. Жены, матери и друзья переживают за них. Поднимите же головы, если вы — мужчины, задумайтесь: сколько можно терпеть эти унижения? Хватит унижаться и бояться, выглядывать из-за угла, чтобы тебя не увидели с тем, кто не угоден власти. Давайте будем гражданами, ведь государство — это не лукашенки, заметалины, азаренки и зимовские. Граждане — это мы с вами!

**Наталья КОЗЛОВСКАЯ.**



*Пр. Венядзікта, Міхаіла, Расціслава.*
*К. Лідзіі, Яна.*

МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ТЭАТРА

220 гадоў з дня нараджэння А.Х. Вастокава (1781–1864), рускага мовазнаўца і паэта.

150 гадоў з дня нараджэння А.П. Сапунова (1851—1924), беларускага гісторыка і краязнаўца.

САКАВІК
**27**
АЎТОРАК

Усход 6.54
Захад 19.36
Даўж. дня 12.42

Маладзік 25 сакавіка
Усход 8.46
Захад 22.38

Дайджест


"Оскары" перед раздачей.

## "Оскаров" раздали за три с половиной часа

В Лос-Анджелесе в рекордно короткие сроки — чуть более трех с половиной часов — завершилась церемония вручения премии "Оскар". Безусловным лидером оказался фильм "Гладиатор", получивший пять золотых статуэток, включая приз за лучший фильм. За ним следуют "Прячущийся тигр, невидимый дракон" и "Траффик" с четырьмя "Оскарами" каждый.

## Количество заключенных в США достигло рекордного уровня

Количество заключенных в американских тюрьмах достигло рекордного уровня и в этом году превысит 2 миллиона — об этом свидетельствуют данные, обнародованные департаментом юстиции США. Отчет департамента показывает, что 80% осужденных относятся к национальным меньшинствам. Американский Союз за гражданские свободы заявляет, что в США к лишению свободы приговаривают гораздо чаще, чем в других демократических странах. В Америке живут всего 5% населения земного шара, но в ее тюрьмах сидят четверть всех заключенных мира.

**"Би-Би-Си".**

## Скандинавы присоединились к Шенгенским соглашениям

Пять скандинавских стран — Норвегия, Дания, Швеция, Исландия и Финляндия — вступили в зону Шенгенских соглашений. Теперь их посольства и консульские учреждения будут оформлять национальные визы и визы, действительные для пребывания на территории всего Шенгенского пространства. Шенгенские соглашения представляют собой совокупность двух документов — Соглашения об отмене визового контроля на внутренних границах и Конвенции о порядке вступления этого Соглашения в силу. Соглашение о свободном передвижении в пределах Европы действует уже шесть лет — с 26 марта 1995 года. В настоящий момент в Соглашение входят Бельгия, Люксембург, Нидерланды, ФРГ, Франция, Италия, Испания, Португалия, Греция и Австрия. Шенгенская виза выдается компетентными органами того государства, пребывание на территории которого является главной целью поездки.

**ИТАР-ТАСС.**

## В Турции нашли две краденые картины Пикассо

Турецкая полиция задержала четырех человек и обвинила их в том, что они пытались продать две украденные картины знаменитого художника Пабло Пикассо. Предположительно, картины были похищены из одного из дворцов в Кувейте во время войны 1991 года в Персидском заливе и впоследствии контрабандным путем перевезены в Ирак, а затем в Турцию. Ранее в Турции уже были обнаружены 6 картин, приписываемых Пикассо. Среди задержанных по подозрению в продаже краденых картин оказались племянник и водитель члена законодательного собрания турецкого города Ван Мустафы Байрама. Они пытались продать произведения по полтора миллиона долларов каждое. Полиция полагает, что к сделкам причастен и сам Байрам, однако арестовать его не удалось, так как он является членом городского парламента и, согласно турецким законам, пользуется депутатским иммунитетом. Названия картин пока не удалось установить, однако известно, что на одной из них изображен клоун, на другой — обнаженная женщина. На картинах стоит штамп некой парижской галереи, однако, возможно, она продала их покупателю из Кувейта. В ближайшее время картины будут отправлены на экспертизу.

## Македонская армия выбила албанцев с позиций вокруг Тетово

Македонским войскам удалось захватить позиции албанских экстремистов на высотах вокруг города Тетово. Официальные представители Македонии утверждают, что под контролем правительственных войск находятся все ключевые пункты. Ход операции, продолжавшейся несколько часов, характеризуют как "ожесточенные бои". Македонская армия использовала десантные группы на вертолетах, артиллерийскую огневую поддержку и танки (в частности, российские Т-52) — для прокладки пути на лесистых склонах. О потерях с обеих сторон ничего не сообщается, если не считать отдельных сообщений о раненых среди мирного населения. Численность войсковых подразделений, занятых в операции, составила, по утверждениям македонского правительства, 200 человек.

**Ассошиэйтед "Пресс".**

# Дзеці памежжа

Дзеці памежжа зусім непадобныя на сваіх аднагодкаў-мінчукоў. Гэта жвавыя светлавалосыя чалавечкі з блакітнымі вачыма. Такое першае ўражанне ад тамтэйшай дзятвы. Яны больш разняволеныя і шчырыя.

Яны ўмеюць думаць і выказваць свае думкі. Нялёгкая эканамічная сітуацыя вымушае іх ужо цяпер задумацца пра сваю будучыню, дзеля якой большасць дзяцей вёскі Рымдзюны пасля школы мараць з'ехаць вучыцца ў Вільню. А можа, нават застацца там жыць. Вось адказы некаторых з іх на пытанні карэспандэнта.

— Хачу паехаць у Літву і далей там вучыцца.

**— А жыць бы вы дзе хацелі?**

— У Літве. Там жыццё лепшае.

**— А як бы вы паставіліся да таго, каб Рымдзюны былі далучаны да Літвы?**

— Тады было б лягчэй. Тут родная зямля, а каб была літоўская —- то было б лепей.

**— У Рымдзюнах больш гавораць па-літоўску ці па-беларуску?**

— І так, і так. Бабулькі больш па-літоўску.

**— А моладзь?**

— Па-беларуску.

**— Па-беларуску ці па-расійску?**

— Змешана.

Мова —- не галоўнае для гэтых дзяцей. Яны шпарка гавораць па-літоўску, ад бацькоў і ў школе навучыліся беларускай мове і ўсё часцей аддаюць перавагу расійскай або, як яны кажуць, — мяшанай. Усё больш дзяцей ідуць вучыцца ў літоўскую школу. Бацькі —- нават нелітоўцы —- самі аддаюць туды сваю малечу.

Хлопца, з якім я гутару, завуць Іванам Лаўрыновічам. Спачатку ён вучыўся ў расійскай школе, але нядаўна бацькі забралі яго адтуль і перавялі ў літоўскую. Ён сам так захацеў. Пытаюся: "Чаму ж не ў беларускую, а менавіта ў літоўскую?"

— Бо я захацеў. Бо ў Вільню хачу ехаць. Вучыцца.

**— А жыць?**

— Таксама.

**— А чаму не ў Мінску?**

— А што там рабіць? У Вільні цікавей.

**— Ты сам беларус ці літовец?**

— Літовец.

**— А бацькі, як у хаце гавораць, па-літоўску ці па-беларуску?**

— Па-беларуску.

Хлопец выдае сябе за літоўца, а літоўскай мовы не ведае. Бо адкуль жа ведаць, калі і ў хаце, і на вуліцы чуваць беларуская мова? Дзеці з чыста літоўскіх сем'яў, наадварот па-беларуску гавораць рэдка. Расказвае 14-гадовая вучаніца рымдзюнскай школы з літоўскай мовай навучання.

— Я до четвертого класса училась в русской школе, и мы как-то привыкли между собой говорить по-русски. Дома —- тоже по-русски, смотря как и где: и по-русски, и по-белорусски, и по-польски, по-всякому, но по национальности мы — литовцы.

Гэтая дзяўчына —- класічны ўзор беларускага дзіцяці. Яна спадзяецца, што ў рымдзюнскім культурным цэнтры будзе дыскатэка з сучаснай замежнай музыкай, і пакуль абыякава ставіцца да роднай мовы і культуры.

— Открывается клуб, я надеюсь, что тут будут проходить праздники. И, может быть, здесь будут дискотеки.

**— А дыскатэка якая — з сучаснай музыкай ці з літоўскай?**

— А со всякой, больше с иностранной.

І ўсё ж дзяўчына вывучае літоўскую мову і марыць, як і большасць яе аднагодкаў, паехаць у Вільню.

— Я думаю ехать в Вильнюс учиться.

**— А чаму не ў Мінск?**

— В Беларуси тяжело поступить. А в Литве есть специальное училище, в которое после нашей школы принимают бесплатно, вся учеба оплачивается, и все такое.

Але жыць дзяўчына хоча ў Беларусі. І такое жаданне — хутчэй, выключэнне з правіла. Дык што ж цягне моладзь у Літву? Тлумачыць Віргінія Тарнаўскайтэ, старшыня Нацыянальнай грамады літоўцаў Беларусі:

— Літва сёння стаіць на вышэйшым узроўні развіцця. Калі жывеш у Літве, там і Шэнгена, таму можна ехаць па ўсім свеце.

Літоўцаў цягне не толькі да сваіх суродзічаў. Іх вабіць заможная Еўропа, шлях у якую ляжыць, як ім здаецца, праз Літву.

**Віктар МУХІН, радыё "Рацыя".**

Абсурд

# За хату — лапату

У 70—80-я гады, пакуль дзеці былі малыя, я збіраў на ашчадную кніжку грошы. Думалася: вырастуць, ажэняцца, дык будзе ім падмурак для наладжвання сямейнага жыцця. У мяне ўжо было 12 тысяч. І раптам усё ляснула...

Тлумачаць: маўляў, разваліўся Савецкі Саюз, змянілася ўлада, і за прапажу грошай няма з каго спытаць. Не, даражэнькія! Улада ў нас не змянілася. І застаўся той жа лад, хоць і называецца цяпер "рынкавы сацыялізм", захавалася савецкая сістэма і нават яе сімвалы. І пры ўладзе зверху і данізу — тыя ж былыя члены райкамаў, абкамаў, тыя ж Мясніковічы, Чыкіны ды Малафеевы па-ранейшаму намі кіруюць. І яны не ведаюць, дзе нашыя грошы?! Ні за што не паверу.

Сем гадоў таму кандыдат у прэзідэнты А.Лукашэнка біў сябе ў грудзі: "Калі выбераце, вярну ўсе ўклады. Абяцаю!" І вось цяпер ён грошы нам "варочае" так, бы нутро варочае.

Мая знаёмая з суседняй вёскі Лахаўка на ашчаднай кніжцы мела тагачасныя 50 тысяч рублёў. Сума!.. А на "вернутыя" купіла 20 бутэлек віна. П'е і плача...

Я ж атрымаў цяперашнія 46 тысяч. Тады за свае зберажэнні мог купіць 170 веласіпедаў. Цяпер, бадай, — 2 колы да іх. Не ведаю, якое выслоўе падабраць на такі выпадак: "за быка — індыка" ці "за добрую авечку — малюсенькую свечку"? Не, мабыць, лепш так: за вялікую хату — лапату...

**Сцяпан НЕФІДОВІЧ, жыхар в.Любань Лунінецкага раёна.**

# "Белавежская пушча"

## Чарговы нумар часопіса

*Чытачы і падпісчыкі прыродалюбнага квартальніка "Белавежская пушча" дачакаліся чарговага, крыху запозненага нумара — гэты раз юбілейнага. Выдавец і журналіст Валеры Дранчук зладзіў 25-ы выпуск свайго аўтарскага выдання. Віншуем калегу!*

*У выпуску, як заўсёды, шмат цікавых змястоўных рубрык — "Летапіс", "Краявід", "Вандроўка", "Спеў", "Зялёны Фронт", "Экслібрыс" і іншыя. Газета працягвае выкрываць псеўдазапаведнасць Белавежскай пушчы, лічыць, што без палітычных перамен у Беларусі немагчыма ўявіць інакшым і стаўленне ўлады да нацыянальных прыродных каштоўнасцяў, заканчвае публікацыю дарожнага дзённіка "На мінскім ровары да суседкі Польшчы", звяртае ўвагу выдаўцоў, пісьменнікаў, журналістаў, работнікаў Дзяржкамдруку, Міністэрства прыродных рэсурсаў, іншых міністэрстваў і ведамстваў на аднастайны і да ўбогасці бедны асартымент экалагічнай асветна-адукацыйнай і прыродапазнавальнай літаратуры, якая выпускаецца ў Беларусі.*

*Нагадаем, што выдавецкі праект "Газета "Белавежская пушча" быў адзначаны ў 1999 годзе міжнароднай прэміяй Генры Форда "За захаванне культурнай спадчыны і ахову нвакольнага асяроддзя". Выданне з нумара ў нумар біла трывогу з-за камерцыйна-вытворчага ўціску на запаведныя тэрыторыі з боку адміністрацыі прэзідэнта, настойліва даводзіла пра заняпад экасістэм Прыпяцкага Палесся, перасцерагала грамадства ад турыстычнага асваення беларускіх нерушаў. Мінулы год быў абвешчаны для чытачоў Годам вады і лесу, а сёлетні, 2001-ы, — Годам беларускага краявіду. Гэтыя дзве акцыі квартальнік звязвае з абаронай ландшафтнай і біялагічнай разнастайнасці, актывізацыяй грамадскага фактару ў адстойванні прыроднай спадчыны Беларусі, якая катастрафічна збядняецца.*

*Прадстаўляем чытачам "Народнай волі" дзве сталыя рубрыкі квартальніка — "Спеў" і "Дзень Зямлі".*

*Павел Буська. Апошні бортнік Белавежскай пушчы. 1930-я. Са спадчыны Яна Ежы Карпінскага (1896—1965). Бібліятэка Белавежскага нацыянальнага парку.*

## Магутны Божа

### Беларускі Дзяржаўны гімн XXI стагоддзя

Для мяне гэта мелодыя Высокага Неба і — адначасна — высокіх пачуццяў да нашай Радзімы, да Бацькаўшчыны. Зразумела, чаму гэты велічны спеў не стаў дзяржаўным гімнам у 91-м ці ў 92-м. Яго баяліся. Калі б ён загучаў на ўсю моц, на ўсю нашу краіну Беларусь, я не ведаю, што было б сёння. Гэта так, як паводле тэксту, — сіла духу і веліч веры. Калі на тое, дык гэта Крыж Еўфрасінні Полацкай нашай, які не трэба шукаць, бо яго не скралі, — бяры і спявай.

Тыя людзі, якія цяпер пры ўладзе, гатовыя ў струнку стаць пад мелодыю Аляксандрава і заадно паставіць на калені нашу краіну і наш народ. Нават калі яны гэта зробяць, "Магутны Божа" не змоўкне, будзе гучаць.

Беларусы павінны і нават абавязаны ведаць, які скарб яны маюць. Каб не скарыцца і не стаць на калені перад іншай сілай — сілай маны, яны мусяць спяваць свой гімн. Стоячы, гучна, пры кожнай нагодзе.

У нашым доме "Магутны Божа" гучыць штораз, калі адзначаем сямейныя святы, асабліва дні нараджэння, а таксама Дзень 25 сакавіка, Каляды, Дзяды, Вялікдзень. Усё пачалося чатыры гады назад, калі ўнуку споўнілася шаснаццаць. Мару і ціха малюся за тое, каб гэты магутны спеў стаў гімнам краіны, каб Беларусь расквітнела і ўзгадавала гарачых патрыётаў Бацькаўшчыны.

**Распавяла Ірына РЫМАШЭЎСКАЯ, настаўніца пачатковых класаў, на пенсіі.**

Станцыя Гарадзея Нясвіжскага раёна.

## Пасадзім Дрэва Жыцця!

### Дзень на карысць нашых родных ваколіц

Мы, людзі, "асуджаныя" быць прыродазаступнікамі, бо адметай разумнасці была і застаецца любоў да прыроды, невычарпальнасць замілаванага пачуцця да яе. Дзень Зямлі — выдатная магчымасць выявіць і пацвердзіць нашае ўдзячнае стаўленне да прыроды, менавіта — дапамагчы ёй. Гэта дзень канкрэтных дзеянняў у абарону навакольнага асяроддзя, на карысць адраджэння зялёных куткоў Беларусі. Спарадкаваць, пабудаваць, падмесці, вывезці, ачысціць, пасадзіць... Гэтыя галоўныя дзеясловы Дня павінны як мага ўвасобіцца ў справу, сілаю дзеянняў "ажывіць" аблічча нашых сялібаў — двароў і вуліц, ваколіцаў і берагоў, лясоў і ўрочышчаў. Гэта дзень і нашай агульнай духоўнай патужнасці, калі мы разам выказваем занепакоенасць станам навакольнага асяроддзя, ставім патрабаванні перад дзяржавай і яе кіраўніцтвам.

Упершыню Дзень Зямлі пачаў адзначацца ў 1970 годзе. Лаўры заснавальніка належаць Гейларду Нэльсану, заканадаўцу і сенатару ЗША, які, паводле ацэнак суайчыннікаў, зрабіў "найважкі ўнёсак у гісторыю Амерыкі" і быў ганараваны вышэйшай грамадзянскай узнагародай — прэзідэнцкім Медалём свабоды. Але і для іншых грамадстваў гэткі ўнёсак Нэльсана быў бясспрэчны — свята Зямлі зрабілася ўсюды сваім, напоўнілася адметнымі рысамі і непаўторнасцю зместу. Найбольш пашыранай акцыяй стала пасадка дрэўцаў. Удзел у ёй бралі вядомыя людзі, святары, дзяржаўныя лідэры. У некаторых краінах адзначаецца Тыдзень Зямлі, але галоўнай датай на ім застаецца 22 красавіка — Дзень як Свята. Дык ушануем яго! Пасадзім дрэва жыцця, пасадзім дрэва надзеі — і свет залюбуецца Нашым Дрэвам!

Из первых уст

*Виктор ПОТАПЕНКО, подполковник милиции:*

# "Я горжусь службой по борьбе с организованной преступностью"

*Виктор Потапенко, офицер Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД Беларуси, работающий со средствами массовой информации, пришел в редакцию "Народной воли" после публикации корреспонденции под заголовком "Хроника одного месяца, или Как "боремся" с организованной преступностью". Слово за слово и получилось как бы интервью. Впрочем, вот в каком ключе шел разговор.*

**— Виктор Владимирович, скажите честно, Вас привела к нам обида на редакцию?**

— Неправда. Не в обиде мы и на "доброжелателя", хотя он, конечно, вытащил из десятилетней работы подразделений по борьбе с организованной преступностью и коррупцией два негативных примера, которыми как бы подвел итог работы всей службы. В стороне от его внимания остались тысячи выявленных преступлений, а вот растиражировать на всю страну единичные случаи с участием оступившихся наших сотрудников — это он сделал мастерски. Мне кажется, что автор-аноним в силу своей образованности, духовных понятий, жизненных принципов придерживается правила мелкого пакостника. В его энергетическом поле заложена программа обиды на людей. Конечно, руководству, личному составу неприятно, что в подразделениях службы происходят чрезвычайные происшествия, неприятно, что ими, как знаменами, размахивают в СМИ, но отвечать "доброжелателям" тем же мы не собираемся.

**— И все же задела Вас та публикация?**

— Задела, конечно, но не в обычном плане. Здесь важнее другое — распространение ложного мнения о службе, искаженного понятия о ее работниках и деятельности. Пользуясь случаем, хочу возразить автору, не дать повода подобным ему опозорить службу каким-то одним-другим несущественным фактом. Читателям вашей газеты наверняка будет интересно глубже познакомиться с работой подразделений нашего Комитета...

**— Вы считаете несущественными факты, опубликованные в газете?**

— Не совсем так. Да я и не вправе дать оценку тому, что произошло, скажем, в кафе, что возле деревни Каменная Горка. Ведется следствие, состоится суд. Только после этого можно в какой-то мере дать объективную оценку произошедшему. Но уже теперь, ни в коей мере не претендуя на ход следствия, можно предположить, что если бы сотрудники располагали другими условиями службы, например, пользовались благами, созданными для нормального отдыха, подобного инцидента могло не произойти. Ведь эмоции, особенно отрицательные, если от них вовремя не освобождаться, могут взрываться. И порой взрываются в совершенно невероятных ситуациях.

Понятно, на этот аспект проблемы руководители наших подразделений обращают серьезное внимание, но десять лет непрерывной работы по выявлению преступных групп — это не год и не два, усталость накапливается и дает о себе знать.

Или же взять второй пример, произошедший в Бресте. В информации анонима капитан А.Кылин представлен как некий преступник, совершивший зло гражданам и угрожающий оружием.

Да, сотрудник управления виноват, что, находясь в нетрезвом состоянии, управлял автомобилем, что незаконно воспользовался оружием — этого никто не отрицает. Но не заметить и то, что человек был на волоске от самосуда, тоже нельзя. Только благодаря руководителю он остался жить, хотя после совершения ДТП у него сработала программа самоуничтожения, так как посчитал, что подвел руководителя, коллектив.

Мне пришел на память случай, произошедший, кажется, в Столбцовском районе. Молодой парень, только что отслуживший в армии, причем какой-то период воевавший в Афганистане, ехал на тракторе по деревенской улице. Внезапно из двора выскочил мальчишка и угодил под колеса. Естественно, парень быстро доставил потерпевшего в больницу, а сам, к сожалению, не смог справиться с совестью. Приехал домой и загубил свою жизнь. Мальчишка, кстати, выздоровел...

**— Виктор Владимирович, Вы даже сами не замечаете, как Вам хочется защитить честь мундира, поднять имидж службы...**

— Может, это и так, но, поверьте, за имидж нашей службы мне особенно волноваться нечего...

**— Почему?**

— Во-первых, потому, что нет условий, чтобы работники наших подразделений погрязли в коррупции, взяточничестве и других негативных явлениях. К нам не приходят с квитанциями

**Не умирает идея прибрать к рукам Комитет по борьбе с организованной преступностью.**

об оплате каких-то услуг, не выстраиваются очереди для получения каких-то жизненно необходимых документов, к нам редко приходят граждане с заявлением о помощи в беде, так как наши подразделения работают не от совершенного факта преступления, а наоборот. Поэтому порядочные, законопослушные граждане до сих пор не знают, что наш Комитет действует в стране как самостоятельный вид милиции.

Что же касается отдельной категории граждан, так сказать, любящих и желающих рискнуть проскочить по лезвию ножа, при этом не обжечься о его лезвие, то с ними другие отношения. Но даже и здесь в последнее время происходят, я бы сказал, прогрессивные формы "взаимоотношений" оперативника и подозреваемого. В практике работы с организованными группами при раскрытии их деятельности, конечно, если четко придерживаться закона, человеческих отношений, психологических моментов, к тому же вести себя без эмоций, самолюбия и амбиций, то удается услышать из уст побежденных признание профессионализма и мастерства наших сотрудников. Бывает, как на ринге: побежденный жмет руку победителю.

С другой стороны, сколько радости видишь в глазах родителей, родственников, близких и знакомых потерпевших, когда они, как бы став соучастниками раскрытия преступления, видят вживую тяжелейшую работу оперативного состава.

Вот, например, что пишет министру внутренних дел мать, у которой похитили ребенка и требовали солидный выкуп.

"Я обратилась за помощью в Управление по Минску Комитета по борьбе с организованной преступностью и коррупцией. Эти люди разделили всю мою материнскую боль и отчаяние. Я постоянно чувствовала их поддержку. Даже в минуты, когда я теряла всякую надежду, они поддерживали меня.

Розыск моего сына длился 16 страшных суток, включая праздники и выходные. И только благодаря высокому профессионализму этих людей, который сочетается с человеколюбием и способностью сопереживания в беде, мой сын был освобожден из рук вымогателей".

**— Редакция согласна с тем, что за десять лет работы на счету Комитета по борьбе с организованной преступностью немало добрых дел, но, согласитесь, их было бы еще больше, если бы...**

— Если бы не многие причины, в том числе действия различных анонимов, распространителей грязных слухов. Ведь именно они в девяностые годы мастерски развалили структуры МВД, освободив их от профессионалов. Три или даже четыре мощные волны увольнения в запас претерпело ведомство. И все из-за того, что не было определенного официального возражения против слухов, будто бы вот-вот увеличат сроки службы для наших сотрудников. Естественно, что многие не хотели терять то, что наработали, оставаться в неведении перед будущим. Не многие из них нашли себя в другой жизни. Некоторым пришлось ломать себя, чтобы принять другие, причем порой совершенно противоречивые своим убеждениям и желаниям действия. Представьте себе состояние человека, который отслужил в милиции двадцать лет, имеет при этом высшее образование и которому необходимо идти на работу сторожем.

Что-то подобное происходит и сейчас, когда некими силами активно распространяется идея "прибрать" самостоятельность и вертикальность структурной подчиненности подразделений по борьбе с организованной преступностью и коррупцией к рукам, а точнее, забрать в одни руки, в один кулак. Нетрудно догадаться, к чему это приведет. Запускаются в ход и другие анонимные информушки, которые влияют на принятие решений некоторых сотрудников. Более легкие на подъем срываются с мест, дабы не проиграть, другие обдумывают иные формы разрешения возможных проблем. В итоге — проигрывает служба в целом, проигрывает государство.

**— А что, ситуация может развиваться и в таком направлении?**

— Может, конечно, но руководство нашего Комитета делает все, чтобы ее упредить. Да и для развития негативных тенденций нет законодательной почвы. Подписывая в 1997 году Указ №474, глава государства четко представлял, что значит для страны создание органа государственного управления с единой централизованной системой подразделений и вертикальной структурной подчиненностью. Именно эта форма, как, между прочим, и в большинстве стран мира, обеспечивает наиболее эффективное принятие мер по противодействию организованным преступным формированиям, в первую очередь коррумпированным, межрегионального и транснационального характера.

Мне не хочется дальше углубляться и обсуждать проблемы, которые не входят в мою компетенцию. Единственное, что могу добавить к сказанному, что служба наших ребят — это упреждающая сила, способная предельно четко и профессионально контролировать и влиять на складывающуюся криминальную обстановку в организованной преступной среде. Поэтому ставить преждевременный негативный диагноз службе и язвить в ее адрес, как это сделано автором-анонимом в заголовке той корреспонденции, по крайней мере, несерьезно.

Кстати, символом Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД Беларуси служит изображение Архистратига Михаила, поражающего копьем пятиглавую гидру — символ торжества победы добра над злом. Мужество в борьбе с преступностью проявили семеро сотрудников, которые награждены орденами и медалями. Один из них, старший лейтенант милиции Владимир Борисовец, к сожалению, награжден посмертно.

***

**Вот такой диалог получился у нас с офицером Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД Беларуси Виктором Потапенко. Публикуя эти строки, редакция не намерена все же "списывать в архив" ту анонимную публикацию, с которой начался разговор, — после суда мы подробно расскажем обо всем своим читателям.**

**Антон КОРЗУН.**

